

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.*

№17 (217) ЛІСТАПАД 2016 ГОД


СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

## "ДАСУДОВАЕ АЗДАРАЎЛЕННЕ" ЯК АПОШНІ ШАНЕЦ

**Як паведамлялася раней, восем сельгаспрадпрыемстваў нашага раёна (“Прыазёрны мір”, “Прыдзвінскі”, ААТ ”АграБаравінка”, “Сіроцінскі” КУСГП Мішневічы”, “Ульскі”, Ляжні” і “Лаўжанскае”,) належаць дасудовому аздараўленню. Што азначае гэтая працэдура?**

У чорным спісе неплацёжаздольных арганізацый раёна знаходзяцца практычна ўсе сельскагаспадарчыя прадпрыемствы Шумілiншчыны, а УП “Шумілінскі райагарсэрвіс” наогул прызнаны банкрутам. Рашэне аб банкруцтве прымаецца тады, калі прадпрыемства неплацежаздольнае і сума яго даўгоў перавышае нават кошт усёй маёмасці самога прадпрыемства. Паводле меркаванняў дырэктара Юрыя Савіцкага, "Райагарсервіс" чакае або санацыя ці яго ўвогуле зліквідуюць. Аднак канкрэтна ў бліжэйшы час пра лёс прадпрыемства і працоўнага калектыва раённыя чыноўнікі пакуль не ведаюць.

Для астатніх восьмі "ляжачых калгасаў" распрацавалі бізнес-планы на 2016-2021 гады, у якіх вызначаны пэўныя шляхі выхаду са складанай эканамічнай сітуацыі і па ўзнаўленню плацёжаздольнасці. Аднак, прасцей кажучы, каб новыя планы не засталіся пустой паперкай, патрэбны дзве галоўныя ўмовы:

1. Фінансавая дапамога дзяржавы (датацыі, крэдыты і субсідыі).
2. Павышэнне узроўню вытворчасці прадукцыі і атрыманне прыбытку.

Пакуль што нейкая станоўчую дынаміку маюць дзве гаспадаркі: ў ААТ “Ляжні” на ААТ “Малако” г. Віцебск знаходзіцца 30 тысяч рублёў, у“Ульскім” на Глыбоцкім малочна-кансервавым камбінаце – 10 тысяч рублёў.

У рэшце рэшт выходзіць, што шансы на фінансавае "дасудовае аздараўленне" у агрампрамысловым сектары нашага раёна – практычна мінімальныя, калі не нулявыя.

**Алесь Шумскі**

У ЦЭТРЫ ЎВАГІ

## ЗМЯНЕННІ Ў БЮДЖЭЦЕ

**Напрыканцы лістапада адбылася пазачарговая сесія раённага Савета дэпутатаў, на якой шумілінскія дэпутаты ўнеслі новыя дапаўненні ў свае рашэнні райсавета, прынятыя раней.**

На сесіі былі ўнесены змяненні ў раённы бюджэт з мэтай яго карэкціроўкі ў адпаведнасці з рэаліямі цяперашніх патрэбаў.

Апроч таго, былі ўнесены змяненні ў рашэнне райсавета аб продажы жылых дамоў(кватэр) у тых сельгасарганізацыях, якія знаходзяцца ў камунальнай уласнасці. Паводле старшыні ШумілінскагарайсаветаІрыныНовікавай, наспела неабходнасць актывізаваць прыватызацыю жылля, каб пазбавіць сельскагаспадарчыя прадпрыемствы ( якія амаль усе збанкрутаваныя) ад абслугоўвання крэдытаў, узятых на будаўніцтва гэтага жылля.

Змяненні датычыліся чатырох камунальных прадпрыемстваў: “Мішневічы”, “Сіроцінскі”, “Ульскі” і “Шумілінскі райагрaсэрвіс”. Пры ўсім тым быў зменшаны да трох гадоў стаж работы, неабходны для прыватызацыі жылля.

**У. Амбросаў**

НАВІНЫ ГЕНПРАКУРАТУРЫ

## ЗАТРЫМАННЕ ЗАРОБКАЎ

**Генпракуратура высветліла, што па стану на 1 верасня больш за 100 арганізацый на Віцебшчыне затрымалі зарплату работнікам**

За 9 месяцаў гэтага года пракуроры гарадоў і раёнаў ўнеслі арганізацыям 51 прадстаўленне, вынеслі 124 прадпісанні, абвясцілі 34 афіцыйных папярэджанні. Да дысцыплінарнай адказнасці за несвоечасовую выплату зарплаты прыцягнулі 84 работніка, да адміністрацыйнай— 250 службовых асоб.

У ходзе выканання прадпісанняў запазычанасць па заработнай плаце загасілі ў суме больш 764 тысячы рублёў.

Меры пракурорскага рэагавання спрыялі памяншэння колькасці фактаў несвоечасовай выплаты зарплаты, адзначаюць у Генпракуратуры.

**Ян Вайтовіч**



ГРАМАДСКАЯ БЯСПЕКА

## ГУЛЬНІ СА СМЕРЦЮ

**Паводле паведамленняў прэс-службы Віцебскага абласнога ўпраўлення МНС, 19 лістапада на тонкім лёдзе вадаёмах Віцебшчыны ўдалося выратаваць чатырох гора-аматараў зімовай рыбалкі.**

У цяперашні час работнікам МНС усё часцей даводзіцца выязджаць на вадаёмы Віцебскай вобласці, дзе тонуць рыбакі. Аднак аматараў зімовай рыбнай лоўлі да гэтага часу нічога не спыняе. На вадаёмах ўтвараюцца палонкі, абрываюцца крыгі, але рыбакі ўпарта імкнуцца выйсці на яшчэ зусім кволы лёд. Подобныя ўчынкі – гэта неапраўданая, смяртэльная рызыка, якая аднак, застаецца загадкай для ратавальнікаў. Толькі да якіх наступстваў прыводзяць падобныя паводзіны – аб гэтым сведчыць сумная статыстыка.

Да прыкладу, на возеры Мосарскім (Ушацкі раён) тануў 68-гадовы пенсіянер, жыхар вёскі Мосар. На шчасце, да прыезду службоўцаў МНС і праваахоўныя органаў, яго паспеў выратаваць аднавясковец. Мужчына кідаў палкі гора-рыбаку, спрабуючы выцягнуць небараку з ледзяной вады. Ужо па прыбыцці выратавальнікаў адубелы ад холаду пенсіянер стаяў на тонкім беражку лёду. Аднак пасля аперацыі па выратавання тапельца, пацярпелы адмовіўся ад шпіталізацыі. Медыкі дыягнаставалі агульнае пераахаладжэнне і адпусцілі яго дадому.

На рацэ Сакалянка ў Талачынскім раёне праваліліся ў палонку аж трое рыбкаў-аматараў. Трагедыя адбылся ў 50 метрах ад берага. Рыбакі разам вудзілі на сярэдзіне ракі, а калі пачалі вяртацца да берага, адзін з іх праваліўся. Іншыя адважыліся яго выцягнуць, але і самі апынуліся ў ледзяной вадзе. Усім траім мужчынам пашанцавала – своечасова пад'ехалі ратавальнікі, якія выцягнулі іх з вады і адправілі ў Каханоўскую раённую бальніцу.

Між іншым, сумная статыстыка за мінулы перыяд гэтага года сведчыць – усяго патанула 59 чалавек. На сённяшні дзень на тэрыторыі Віцебскай вобласці службоўцы МНС, праваахоўных органаў і Асвода праводзяць рэйды па зімовых вадаёмах. Удзельнікі рэйду толькі на рацэ Сакалянка Талачынскага раёна 15 рыбакоў вярнулі на бераг, а магчыма некаторым выратавалі жыццё.

Кожны аматар зімовай рыбалкі павінен памятаць, што забараняецца выходзіць на лёд, пакуль яго таўшчыня не дасягне 7 сантыметраў. Гэта правіла прадпісана дзеючым на тэрыторыі вобласціадпаведнымраспараджэннем Віцебскага аблвыканкама.

**Алесь Прыбярэжны**

НАВІНЫ СУДА

## СУД НАД ПРАРАБАМ

**Прараб віцебскага прадпрыемства паўстане перад судом з-за таго, што трое падначаленых пацярпелі падчас працы, паведаміла намеснік начальніка аддзела пракуратуры вобласці па наглядзе за выкананнем заканадаўства ўпраўленнем Следчага камітэта па рэгіёне Наталля Федарэнка.**

Пракуратура вобласці перадала на разгляд у суд Шумілінскага раёна крымінальную справу ў дачыненні да прараба віцебскага ТАА «Промэнергострой».

«Прадпрыемства заключыла дагавор падраду на выкананне работ з ААТ" Обальскі керамічны завод ". На адным з аб'ектаў рэканструкцыі 16 сакавіка гэтага года адбыўся няшчасны выпадак: частка перакрыццяў абрынулася, тры работніка "Промэнергострою" пацярпелі: упалі з вышыні і атрымалі цяжкія цялесныя пашкоджанні. Кіраваў работамі прараб прадпрыемства. Яго вінаваць у парушэнні правілаў бяспекі будаўнічых работ, што пацягнула па неасцярожнасці прычыненне цяжкіх пашкоджанняў, – частка1 артыкул 303 КК », – патлумачыла Наталля Федарэнка.

Адзін мужчына ўсё яшчэ знаходзіцца на лячэнні, двое вярнуліся да працы. Ніхто з іх не вінавацiць прараба, нават неаднаразова падаваліся хадайніцтвы аб спыненні справы ў сувязі з прымірэннем бакоў. Аднак яны былі адхіленыя.

«Усе станоўча адклікаюцца пра абвінавачанага: у яго вялікі стаж, ён добры сем'янін, не судзімы. Разам з тым мужчына 9 разоў прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці за розныя парушэнні пры выкананні службовых абавязкаў. У дадзеным выпадку ён цалкам прызнаў сваю віну », – дадала Наталля Федарэнка.

***“Белта”***

НАВІНЫ КДК

## ПА ЗАНІЖАНЫМ КОШЦЕ

**Сельгасарганізацыі Шумілінскага раёна прадавалі грамадзянам жылыя памяшканні з парушэннямі заканадаўства**

Камітэт дзяржкантролю Віцебскай вобласці выявіў самыя распаўсюджаныя неадзінкавыя парушэнні — гэта продаж жылых памяшанняў пасля заканчэння тэрміну іх ацэнак.

Падобныя парушэнні былI выяўлены

***(працяг на стр. 2)***

НАВІНЫ КДК

(пачатак на стр. 1)
не толькі на Шуміліншчыне, але і ў суседнім Полацкім, Віцебскім, Сенненскім, Аршанскім, Докшыцкім і іншых раёнаў вобласці.

Як аказалася, указаныя факты парушэнняў былі допушчаны ў некаторай ступені і па віне службоўцаў райвыканкамаў, якімі былі падрыхтаваны і завізіраваны праекты рашэнняў пра даванне згоды сельскагаспадарчым арганізацыям на продаж жылых памяшканняў з выкарыстаннем вынікаў ацэнкі, тэрмін дзеяння якіх прайшоў.

КДК Віцебскай вобласці звяртае ўвагу кіраўнікоў арганізацый, у распараджэнні якіх знаходзяцца жылыя памяшканні дзяржаўнага жылога фонду на неабходнасць забяспячэння няўхільнага выканання патрабаванняў заканадаўства пры іх продажы.

Дарэчы, пры за парушэнне заканадаўства аб распараджэнні дзяржаўнай маёмасцю прадугледжана адміністрацыйная адказнасць у выглядзе накладання штрафу на вінаватую фізічную асобу да 1050., а на юрыдычную — да 21000 руб. Апроч таго, у выпадку адчуження жылых памяшканняў па заніжаным кошце будзе ўчынены ўрон дзяржаўнай маёмсці, а за гэта наступае ўжо крымінальная адказнасць.

**Ян Вайтовіч**

ЗДАРЭННЕ

# ВЫКРАЎ ГРОШЫ

**Работнік аднаго з прадпрыемстваў піў спіртное са знаёмым мужчынам, пасля чаго з яго кватэры прапалі грошы і банкаўскія карткі.**

19 лістапада а дзевятай гадзіне раніцы у Шумілінскі РАУС звярнуўся 24-гадовы аднаго з акцыянерных таварыстваў раёна. Пацярпелы расказаў, што 18 лістапада ў перыяд з 16 да 20 гадзін, пасля распівання спіртных напояў са знаёмым, з яго кватэры здзейснены крадзёж грошай у суме 130 рублёў і двух банкаўскіх картак.

Супрацоўнікамі міліцыі ўстаноўлена, што злачынства здзейсніў 33-гадовы непрацуючы. Супраць мужчыны распачата крымінальная справа па частцы 2 артыкула 205.

**Сяржук Крупскі па зводках прэс-службы УУС Віцебскага аблвыканкама**

СПОРТ

# ПАПУЛЯРНАЯ БАРАЦЬБА

**У Шуміліне ўдала развіваецца в'етнамскае баявое мастацтва вавінам в'ет дао.**

Як вядома, вавінам в'ет во дао ў нашай краіне развіваецца ужо з 1992 года, але асаблівым штуршком для развіцця стаў 1998 год, калі была створана "Беларуская федэрацыя вавінам в'ет во дао". На сённяшні дзень вавінам в'ет во дао ў Беларусі займаецца больш за тысячу спартсменаў.

У Шуміліне трэці год існуе аб'яднанне па інтарэсам "Вавінам в'ет во дао", прычым дзякуючы педагогу дадатковай адукацыі і трэнеру Святлане Бараноўскай. У свой час яе асабістыя захапленні адзінаборствам пачаліся ў Віцебскім тэхналагічным інстытуце, калі набывала спецыяльнасці мастака-тэхнолага і дызайнера інтэр'ера.

Аднак менавіта захапленне стала ў далейшым рэальнай спецыяльнасцю. Зараз Святлана стварыла тры групы выхаванцаў на радзіме ў Шуміліне.

Паводле трэнера Бараноўскай, спачатку дзяцей у групы набіраюць абсалютна ўсіх. Далей малыя самі вырашаюць у ходзе заняткаў: заставацца ім або сыходзіць.

Як правіла, з малымі 5-6 гадоў займацца намнога складаней, а вось 7-8-гадовыя ўжо разумеюць, навошта яны сюды прыйшлі, дзеля якой мэты займаюцца барацьбой. Вопытны педагог імкнецца наладзіць найбольш спрыяльныя адносіны з хлопчыкамі, сфарміраваць іх у гурт, як адну цэлую каманду. Спартыўнае аб'яднанне па інтарэсах некаторыя хлопцы наведваюць са сваімі братамі і сёстрамі. Да прыкладу, тут займаюцца Алег і Вольга Кляшчонак (абодва чэмпіёны рэспублікі) і чацвёра дзяцей Анастасіі Шпулёвай. На будучае каманда рыхтуецца да адбору на чэмпіянат Еўропы, які пройдзе ў наступным годзе ў Румыніі.

Выхаванцы вывучаюць розныя прыёмы самаабароны і іншыя тэхнічныя практыкаванні. Школа в'ет во дао мае свае адзнакі – паясы. Найперш пачынаецца з узроўню самаабароны (блакітны пояс) — першы экзамен для пачаткоўцаў. Затым ідуць сіні, жоўты, чырвоны паясы розных ступеняў і найвышэйшы — белы пояс.

Дарэчы, займацца вавінам в'ет во дао можа кожны, але гэта спорт, дзе важныя не мускулы, а найбольш сіла духу. У гэтым выпадку важна праявіць болей цярпення і настойлівасці, каб штодзённай адпрацоўкай практыкаванняў дасягнуць жадаемага выніку.

**Алесь Прыбярэжны**

# СКРАЛІ ВЕЛАСІПЕД

**Работніца аднаго з прадпрыемстваў заявіла ў міліцыю аб прапажы веласіпеда.**

У Шумілінскі РАУС звярнулася 22-гадовая работніца. Яна паведаміла, што ў перыяд з 19 гадзін 30 хвілін да 20 гадзін 30 хвілін неўсталяваны злачынец здзейсніў крадзеж ровара "Бусел" 2014 года выпуску.

Нанесены ўрон ацэньваецца ў 139 рублёў. Па факту крадажу заведзена крымінальная справа па частцы 1 артыкула 205 КК.

**Сяржук Крупскі**

# КРАДЗЁЖ З ДАЧЫ

**З дачнага дома ў чарговы раз выкралі бензапілу «Штыль», сякеру і прадукты харчавання**

У Шумілінскім раёне злодзеі мэтанакіравана шукаюць на дачах дарагую тэхніку.

У міліцыю звярнулася 61-гадовая пенсіянерка. Гаспадыня паведаміла, што неўсталяваны зламыснік, сарваўшы навясны замок, пракраўся ў яе дачны дом і здзейсніў крадзёж. З дома прапалі бензапіла «Штыль», сякера і прадуктаў харчавання.

Нанасены ўрон 538 рублёў. Следчыя распачалі крымінальную справу па ч. 2 арт. 205 КК.

**Сяржук Крупскі па зводках прэс-службы УУС Віцебскага аблвыканкама**

НАША СПАДЧЫНА

# ЧЫМ ЗНАКАМІТЫ ХРАМ У ЛЕСКАВІЧАХ?

**Турыстам, якіх дарогі прывядуць у Шуміліна, варта пабываць у вёсцы, размешчанай у пяці кіламетрах ад райцэнтра. Лескавічы адносяцца да тых населеных пунктах, якія здольны здзівіць вандроўнікаў не толькі захапляючымі краявідамі, але і сваім мінулым, напоўненым цікавымі падзеямі.**

Прыадчыніць заслону таямніцы і акунуцца ў гісторыю нам дапамог вядомы Шумілінскі краязнаўца, пісьменнік, а па асноўным родзе дзейнасці кардыёлаг ЦРБ Віктар Улюценка.

— Лескавічы больш ведаюць у Еўропе, чым на Віцебшчыне, — адзначыў ён і растлумачыў, з чым жа, а дакладней, з кім гэта звязана. Гаворка пайшла пра Цэліну Бажэнцкую (у дзявоцтве — Хлюдзінскую), заснавальніцу каталіцкай кангрэгацыі сясцёр Уваскрасення Гасподняга. Як распавёў Віктар Васільевіч, у гэтай жанчыны, прылічанай ў 2007 годзе да блажэнных, быў дзіўны лёс, які немагчыма назваць лёгкім і бесклапотным. Хаця пачыналася ўсё цалкам бясхмарна: нарадзілася дзяўчынка ў 1833 годзе ў сям'і заможных землеўладальнікаў, якія жылі тады ў маёнтку пад Оршай. А ў сядзібу ў Ляскавічы Хлюдзінскія пераехалі, калі ёй было 12 гадоў. Атмасфера ў доме панавала шчырая і сардэчная, дзецям (у Цэліны былі яшчэ сястра і брат) імкнуліся даць добрую адукацыю, для чаго не толькі нанялі замежных выкладчыкаў, але нават адмыслова пабудавалі Дом настаўнікаў.

У 20 гадоў дзяўчына, паслухмяная волі бацькоў, выйшла замуж за багатага дваранiна Юзэфа Бажэнцкага і з'ехала ў яго маёнтак на Гарадзеншчыну. Дарэчы, ёсць звесткі, што перадусім яна марыла стаць манашкай. Здавалася б, жыццё далей будзе заможным, прысвечаным хатнім клопатам, але ў 1863 годзе пачынаецца паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. У маёнтку Бажэнцкай размясціўся лазарэт для параненых паўстанцаў, дзе працавала і Цэліна. За гэта ўчынак пазней яна была арыштаваная і разам з нованароджанай дачкой Ядвігай кінута ў турму ў Гродне. На шчасце, у выніку суд апраўдаў ўсіх сясцёр міласэрнасці.

Шмат гадоў Цэліна Бажэнцкая выношвала ідэю стварэння жаночага манаскага ордэна. У 1880-х гадах яна змагла ажыццявіць сваю мару, заснаваўшы кангрэгацыю сясцёр Уваскрасення Гасподняга, якая ставіла мэтай навучанне і хрысціянскае выхаванне дзяўчынак. Да смерці Цэліны, амаль да 1913-га, было адкрыта 22 манастыра ў розных краінах.

Яшчэ адна значная для Лескавіцкай гісторыі асоба — Уладзіслаў Хлюдзінскі. Гэта пляменнік Цэліны, які валодаў фамільным маёнткам да 1917 года. Вядома, што ён быў актыўным лабістам пракладкі чыгункі праз свае зямлі, што ў рэшце рэшт і адбылося. Гэта спрыяла экспарту ў Еўропу масла і сыроў, якімі славіліся Ляскавічы. Менавіта Уладзіслаў Хлюдзінскі вырашыў пабудаваць у сваіх уладаннях хай невялікі, але сапраўдны замак на ўзвышшы, з якога адкрываецца цудоўны від на возера. Па некаторых дадзеных, праект незвычайнага будынка выконваў найвядомы англійскі архітэктар Макей Х'ю Бейлі Скот (1865-1945 гг.). Будаўніцтва вялося ў пачатку XX стагоддзя, сцены звонку выкладваліся з каменя, а куты і аркі былі цаглянымі. Але да Першай сусветнай вайны скончыць працу не паспелі, потым жа стала не да таго. Пасля рэвалюцыі гаспадары наогул пакінулі краіну, а маёнтак і недабудаваны будынак сталі разбурацца. Самотны працэс працягваецца і зараз...

Віктар Улюценка лічыць, што адным з варыянтаў захавання руін замка магло б стацьператварэнне найбольш ацалелай вежы ў аб'ект грамадскага харчавання, вакол якога была б створана зона адпачынку. Але без сур'ёзных фінансавых уліванняў ўвасобіць у жыццё такі праект немагчыма, таму пакуль ідэя застаецца нерэалізаванай.

Аднак у Лескавічах цікавасць уяўляе не толькі спадчына Хлюдзінскіх. Многія праваслаўныя прыязджаюць сюды, каб наведаць Свята-Сергіеўскі храм, пабудаваны ў 1878 годзе. Ён з'яўляецца помнікам архітэктуры рэтра-спектыўна-рускага стылю. Да 1930 года там праходзілі набажэнствы, але потым на хвалі барацьбы з рэлігіяй царква была зачынена. Там размяшчаліся клуб і збожжасховішча. Падчас Другой Сусветнай вайны будынак зноў пачалі выкарыстаць па прамым прызначэнні, і так было да таго часу, пакуль у пачатку 60-х зноў не актывізаваліся ганенні на вернікаў. У 1962-м купал царквы знеслі, у сярэдзіне ўсё разрабавалі. І толькі праз 30 гадоў храм зноў адкрыўся. Каб вярнуць яму належны выгляд, спатрэбілася нямала сіл і сродкаў, але вынік таго каштаваў. Сёння гэта адно з найпрыгажэйшых збудаванняў Прыдзвінскага краю.

Яшчэ адной нагодай прыехаць і палюбавацца лескавіцкай краявідамі можа стаць той факт, што іх апяваў вядомы беларускі паэт Ніл Гілевіч. Вядома ж, не выпадкова. Жонка літаратара Ніна Іванаўна, з якой ён пражыў душа ў душу не адзін дзясятак гадоў, родам з Шуміліншчыны. Менавіта таму тутэйшыя месцы і нараджалі ў паэта адчуванне пяшчоты, успаміны пра маладосць, асацыяцыі з закаханасцю, лёсам. У 1993 годзе ён пісаў:

*Над Лескавіцкім возерам*
*Спакой І цішыня.*
*На вецці вербалозавым*
*Павісла стома дня.*
*Вячэрняя сутонніца*
*Нячутна мроі тчэ.*
*А вусны ня натомяцца -*
*Яшчэ, яшчэ, яшчэ!*

Можа быць, і вас над Лескавіцкім возерам чакае сустрэча з лёсам? Не хочаце праверыць?

***Пераклад з расейскай рэдактара***
**Vitvesti**

РЕФЕРЕНДУМ-96

# ЛУКАШЕНКО ВЫИГРАЛ, БЕЛАРУСЬ ПРОИГРАЛА

**Авторитарный путь не был для Беларуси фатальным, но население и элиты клюнули на иллюзию «светлого прошлого».**

История дает примеры «диктатур развития» вроде Сингапура, Южной Кореи, Китая. При помощи референдума, проведенного 20 лет назад, 24 ноября 1996 года, Александр Лукашенко сконцентрировал в своих руках колоссальные полномочия, но диктатуры развития не получилось.

Беларусь не стала восточноевропейским тигром, как об этом трубила государственная пресса в тучные годы роста ВВП и заработков на дрожжах российских субсидий. Сейчас ВВП и реальные доходы в минусе, причем это не временные трудности, а капитальный кризис всей белорусской модели, утверждают независимые экономисты.

Ее архитектор и сегодня пытается пустить пыль в глаза заезжей российской прессе, но получается совсем плохо.

**Масса и номенклатура поддержали авторитаризм**

А начиналось все для молодого президента очень даже хорошо. Лукашенко действительно был популярен, когда затевал в 1996-м референдум, имевший целью покончить с непокорностью другой ветви власти — Верховного Совета.

При проведении плебисцита президентская ветвь власти не утруждала себя политесом, действовала брутально, безжалостно прессинговала и откровенно запугивала политических противников. Оппозиция назвала это неконституционным захватом власти, переворотом. Для обеспечения своей победы президент тогда создал «фактически штурмовой отряд», говорит бывший депутат Верховного Совета Сергей Калякин.

По горячим следам оппозиционеры заявили и о фальсификации итогов референдума-96. В частности, подозрительно выглядел большой процент досрочного голосования (вот когда зародился этот «передовой опыт»!).

Однако, по утверждению доктора социологии, основателя НИСЭПИ Олега Манаева, большая часть белорусов осенью 1996 года доверяла президенту, поддерживала его предложения. Так что, надо думать, многие искренне голосовали за переделку Конституции под Лукашенко, надеясь, что наделенный царской властью «батька» лучше решит их проблемы, наладит жизнь.

Более того, в тучные 2000-е годы чувство правильного выбора в массе обывателей укрепилось. Доходы белорусов стабильно и впечатляюще по постсоветским меркам росли. Внутренних противников режима с их призывами бороться за демократию масса не особо слушала. «Таити, Таити… Нас и здесь неплохо кормят».

К тому же, отметил в комментарии для Naviny.by директор Института политических исследований «Политическая сфера» Андрей Казакевич, в 90-е годы у Лукашенко «сложился альянс со старой постсоветской номенклатурой, она хотела порядка, ясных для себя правил, то есть авторитарной системы, к которой привыкла».

Авторитаризм может давать преимущества «в оперативном плане», например за счет концентрации государственных ресурсов для решения социальных вопросов, преодоления кризисных явлений в экономике, говорит политолог. Но если говорить о развитии страны в долгосрочной перспективе, подчеркивает он, то «авторитарные системы — это минус, они имеют много издержек».

В частности, поскольку «выборов практически нет», то возникает проблема коммуникации власти с населением и, наконец, проблема перехода самой власти — «неясно, что будет потом», отметил собеседник.

Некоторые части населения выигрывают от авторитаризма, другие — от демократии, причем демократическое развитие не обязательно сразу приносит экономические преференции, «в этом тоже сложность выбора между авторитаризмом и демократией», подчеркнул Казакевич.

**Тяжелое похмелье**

Референдум-96 поссорил Лукашенко с Западом. Евросоюз отказался ратифицировать уже подписанный договор о сотрудничестве и партнерстве с Беларусью. Недавно белорусский президент, принимая важную делегацию из Брюсселя, прозрачно намекал, что не грех бы такой документ наконец заиметь. Да, не грех, но двадцать лет потеряно.

Тогда же, после референдума-96, ставка была сделана на «братскую интеграцию» с Россией. Некоторое время в Минске считали, что ухватили бога за бороду. Обильными российскими дотациями безо всяких реформ обеспечивалась динамика роста на старой советской индустриальной базе.

Но сказка закончилась. Переработка льготной российской нефти перестала приносить прежние барыши. А другие белорусские товары стали терять конкурентоспособность. Авторитарная модернизация ряда отраслей (цементная, стекольная, деревообработка) не дала должного эффекта.

О реформах заговорили не только оппозиционеры, независимые эксперты, но и люди в окружении президента. Однако реформировать массив госсобственности означает подточить устои авторитарной власти, заматеревшей за два десятилетия после референдума-96.

Архитектор модели собственноручно рушить ее не согласен, а поскольку он решает все, то трансформация блокирована. В итоге страна погрузилась в стагнацию, хотя социологические опросы (за которые поплатился разгромом НИСЭПИ) в последние годы показывали, что за перемены выступает солидное большинство населения. В таких системах, как у нас, механизм обратной связи сломан.

Мир ушел вперед, в новые технологические уклады, а белорусы беднеют и не видят света в конце тоннеля. Недавняя команда из уст Лукашенко снова поднять зарплаты до 500 долларов в следующем году грозит новой девальвацией, потому что волюнтаристскую установку можно выполнить только печатанием пустых денег.

Привязка же к России сегодня стала большой головной болью для белорусского руководства. Оно пытается усилить взаимодействие с Западом, но безреформ диверсифицировать внешнюю политику и торговлю не получится. А реформы противопоказаны персоналистскому режиму, выстроенному на итогах референдума-96. Всё, порочный круг замыкается.

**Был ли этот вариант фатальным?**

Политологи любят красивое выражение «точка бифуркации». Мог ли быть иной исход у политического противостояния 1996 года, могла ли Беларусь пойти другим путем?

«Авторитаризм не является проклятием для постсоветских стран», — говорит Казакевич. Он отмечает, что наряду с примерами автократий в Средней Азии, Азербайджане есть примеры Грузии, Украины, Молдовы, Кыргызстана, «в значительной степени» Армении, когда «можно говорить о проблемах с демократией, но это другие режимы». Ход событий в Беларуси также не был запрограммирован, ситуация могла развиваться и в совершенно другом направлении, считает Казакевич.

Эксперт минского аналитического центра «Стратегия» Валерий Карбалевич также не придерживается фаталистического взгляда. В 1996-м «шанс у общества, у демократических сил был», — заявил аналитик в комментарии для Naviny.by.

В частности, считает он, склонить чашу весов в свою пользу противники Лукашенко могли бы, «если бы удалось осенью 1996 года вывести на улицы столько же людей, как весной 96-го» (тогда прошла серия впечатляющих массовых акций протеста против политики президента, названная горячей весной).

Переломить ход событий могло бы и решение Конституционного суда об импичменте, «если бы не дрогнул [тогдашний глава КС Валерий] Тихиня». Иначе говоря, многое решали политическая воля, смелость конкретных действующих лиц, подчеркивает Карбалевич.

Так или иначе, история не терпит сослагательного наклонения. Двадцать лет назад белорусы позволили жестко переформатировать политическую систему под одного человека, надеясь, что таким образом получат процветание.

Но усиленные полномочия Лукашенко пустил прежде всего на то, чтобы обеспечить себе правление без конкуренции, создать ретромодель общественного устройства в советском стиле. По сути, он попытался остановить, заморозить время. Сегодня оно мстит.

**Александр Класковский**
**naviny.by**




МЕРКАВАННЕ

# ТВАРИ СЛУЖАЩИЕ

**Я вчера впервые увидела, как человека ведут на цепи. Не в кино про рабство, не в фильмах про садистов. Это были документальные кадры из белорусского суда.**

В Слуцкий суд на цепи приводили Ивана Барбашинского. Того самого, брат которого «сам собой» умер в Жодинском СИЗО, а многочисленные следы от ударов тупым предметом на его теле, если верить милиции, тоже «сами собой» получились.

Того самого, который жил спокойно, никого не трогал, но однажды вечером возвращался со старшим братом из кафе и попался на глаза милиции.

Его водили в суд на цепи. НА ЦЕПИ! Как злостного преступника. Как нелюдя. Как зверя. А сегодня дали два года «химии» и выпустили.

Кто придумал такие правила? Кто и кому давал полномочия делать из людей животных и сажать на цепь? Из людей, вина которых еще даже не доказана.

Но даже если доказана! Только садисты так себя ведут. Только садисты могут додуматься сажать людей на цепь, водить «руки кверху за спину, носом в пол» и на полусогнутых; только извращенцы могут мочиться людям на голову и рассказывать им о своих диких сексуальных фантазиях. Как в одном ведомстве смогли собрать столько извращенцев?.. Чтобы такое сотворить, надо было по-настоящему стараться. Много лет усердно СТАРАТЬСЯ!!!

«Большое спасибо журналистам», — это были первые слова Ивана Барбашинского после того, как его выпустили из клетки.

А я хочу сказать, что это ненормально. НЕНОРМАЛЬНО! Когда только журналисты, пользуясь временной оттепелью, и могут что-то сказать. Где адвокаты? Где сами судьи? Где депутаты? Где профессиональные психиатры и психологи? Где ответственные юристы, которые понимают, что даже у представителей ведомства государственного насилия, должны быть ограничители.

Где поюще-пляшущая общественная комиссия при МВД, которую недавно в колонии накормили, «как в ресторане», и они не постеснялись во всех СМИ об этом рассказать?..

В XXI веке человека водят на цепи. Без дай-причины КАЖДОГО, кто попал под уголовное обвинение, на суде сажают в клетку. Вместо «Здрасьте!» любому надевают наручники, а потом разбираются. В белорусских тюрьмах и СИЗО здоровые люди умирают «сами собой» и все тип-топ. Это что?.. Это как называется?..

На мой взгляд, это называется садизм. Садисты оккупировали милицейское ведомство, потому что даже самые маленькие погоны дают им просто неограниченную власть над людьми. А государство, закрывая глаза на все скандалы, им только потакает. Для государства твари служащие ценны и важны. Надо понимать, потому, что именно они делают из общества тварей дрожащих.

**Светлана Калинкина**
**Белорусский партизан**

БЕЛАРУСЬ – РАСЕЯ

# АБУРЫЛІСЯ НА МЕРКАВАННЕ БЕЛАРУСКІХ ГІСТОРЫКАЎ

**У Расіі абурыліся, што беларуская нацыя "старэйшая за расіян на 200 гадоў". Падчас ток-шоу "Время покажет" у эфіры расійскага Першага канала абмяркоўвалася кніга беларускага гісторыка Алега Трусава "Гісторыя сярэднявечнай Еўропы".**

Як можна меркаваць, саму кнігу расіяне не чыталі, яны цытавалі публікацыю пра яе прэзентацыю. Прагучала, што беларусы — "сапраўдныя рускія", што Сувораў "паліў вёскі" і г. д. Вядучы Арцём Шэйнін настойліва спрабаваў правесці паралелі паміж сітуацыяй у Беларусі і ва Украіне. Ён мяркуе, што ў нашай паўднёвай суседкі таксама ўсё пачыналася з такіх падручнікаў.

Журналістка Першага канала Кацярына Кібальчыч заявіла, што кніга Трусава — гэта не афіцыйная пазіцыя Беларусі. А гісторык і грамадская дзеячка Ніна Стужынская прызналася: "Я ў нейкім дзікім шоку... З чаго тут паніка? З кропкі гледжання беларусаў гэта нармальная з'ява. Прычым тут вы? Гэта гісторыя нашай краіны!".

Але вядучы не супакойваўся. Згадаў пра 10 тысяч загінулых украінцаў, абазваў аўтара кнігі "фрыкам". Былі паказаныя відэакадры з вулічнай акцыі ў Мінску ў сакавіку 2016-га, на якіх была моладзь з бел-чырвона-белымі сцягамі скакала і крычала "Хто не скача, той маскаль!". Пасля прадэманстравалі такія ж відэакадры з Кіева ў кастрычніку 2013 года. "Пра Украіну гаварылі: паскачуць і супакояцца. Не супакоіліся", — сказаў Шэйнін, намякаючы, што ў Беларусі існуе небяспека паўтарэння ўкраінскіх падзей.

Відэа праграмы гл. тут (першая яе частка прысвечаная Украіне, у ёй з расійскімі прапагандыстамі спрачалася палітолаг Алеся Яхно).

Ніна Стужынская ў каментары Радыё Свабода сказала, што ў шоку ад гэтай сустрэчы з расійскімі прапагандыстамі. Паводле яе слоў, у Маскве штучна нагнятаецца беларуска-расійскі канфлікт.

**euroradio.fm**

ПАЎТОР ЖАНРУ

# ПРАВАДЫР ПРАПАНУЕ ІСЬЦІ Ў МІНУЛАЕ

**Кіраўнік Беларусі Аляксандар Лукашэнка вырашыў чарговым разам ашчасьлівіць беларускі народ. Ён зноў даручыў у 2017 годзе вярнуць сярэдні заробак на ўзровень $500. Трэцім разам, лепшым часам.**

Першы раз гэта было ў 2010 годзе, напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў. У выніку цягам таго году сярэдні заробак вырас з $350 да $530. Потым увесну 2011 году здарыўся абвал і дэвальвацыя рубля амаль на 200%.

У 2012 годзе Лукашэнка зноў загадаў давесьці сярэдні заробак да $500. І зноў гэта закончылася дэвальвацыяй на мяжы 2014-2015 гадоў на 40%.

Апошні раз Лукашэнка абяцаў заробак 500 даляраў у 2014 годзе. «Пяцьсот даляраў — гэта той мінімум, які павінен быць у кішэні чалавека», — казаў ён. Але здарыўся крызіс 2015, 2016 году. Цяпер у сярэднім беларусы атрымліваюць $377 у эквіваленце. Два гады Лукашэнка маўчаў наконт сярэдняга заробку ў далярах. Прэм'ер Кабякоў сёлета ўвесну казаў: «Думаю, у нас грамадзтва ўжо зразумела, што ад гэтых паказчыкаў у даляравым эквіваленце неабходна адыходзіць. Гэта не заўсёды справядліва і не зусім дакладна з пункту гледжаньня эканамічнай навукі».

І вось цяпер Лукашэнка, насуперак «пункту гледжаньня эканамічнай навукі», зноў ставіць такую задачу на парадак дня. Чаму раптам ён вярнуўся да гэтай «сьвятой лічбы»?

Рэч у тым, што крызіс сацыяльнай мадэлі непазьбежна выклікае ідэалягічны крызіс. Падобная сытуацыя здарылася на пачатку 1990-х гадоў, пасьля краху СССР і сацыялістычнай сыстэмы. Разбурэньне ранейшай карціны сьвету выклікала ў масавай сьвядомасьці псыхалягічны шок. Стварэньне Лукашэнкам беларускай сацыяльнай мадэлі дазволіла пераадолець гэты крызіс, стварыць новую сьветапоглядную сыстэму каардынатаў.

І вось цяпер у нейкай ступені мы вярнаемся да пачатку 1990-х гадоў. Сацыяльнаму і эканамічнаму крызісу зноў спадарожнічае ідэалягічны, каштоўнасны і псыхалягічны крызіс. Ва ўяўленьні кіруючай эліты і грамадзтва бурыцца звыклы сьветапарадак. Сярод насельніцтва зьявіліся расчараваньне і роспач. Прыходзіць усьведамленьне, што крызіс, падзеньне ўзроўню жыцьця — гэта не часовыя цяжкасьці, выкліканыя вонкавымі чыньнікамі, як спрабуе пераканаць улада, а надоўга — можа, назаўсёды. Гэта ўжо знайшло адлюстраваньне ў сацыялягічных апытаньнях. Зьяўляецца ўсьведамленьне, што беларуская сацыяльная мадэль — гэта тупіковы варыянт, што 20 гадоў «сусанін» вёў краіну не туды. Народ нават пачаў схіляцца да ідэі рэформаў.

У гэтай сытуацыі галоўны віноўнік тупіку вырашыў, што трэба даць людзям надзею і аптымізм. Лукашэнка нічога лепшага не прыдумаў, як зноў вярнуцца да абяцанай лічбы $500.

Хоць кіраўнік Беларусі і зьвязвае рост заробкаў з павелічэньнем прадукцыйнасьці працы, але гэта не павінна ўводзіць у зман. Бо з улікам цяперашняга эквіваленту даляравых заробкаў, каб забясьпечыць $500, трэба павялічыць прадукцыйнасьць працы за год у паўтара раза. Гэта фантастыка.

Дарэчы, праграма на пяцігодку, прынятая Ўсебеларускім народным сходам, прадугледжвае, што да 2020 году сярэдні заробак вырасьце на 9,5-11,6%. Калі адлічваць ад цяперашняга ўзроўню, то атрымліваецца дзесьці $410 на канец пяцігодкі. Такімі тэмпамі (9,5-11,6% за пяцігодку) трэба 15 гадоў, каб выйсьці на $500.

Цяпер усе загаварылі пра нерэальнасьць гэтага абяцаньня. Заўважыў бы, што тэарэтычна дасягненьне такога сярэдняга заробку магчымае пры некалькіх умовах. Калі раптам сусьветныя цэны на нафту і калій вырастуць у 2-3 разы. Калі запусьціць друкарскі станок. Калі закрыць нерэнтабэльныя прадпрыемствы, звольніць усіх лішніх работнікаў, скарацьцьдзяржапарат.Каліажыцьцявіць рэвальвацыю, павысіць абмены курс беларускага рубля. Іншая справа, якія эканамічныя наступствы гэта за сабой пацягне.

Але тут важна ацаніць крызіс жанру. Нічога новага прыдумаць Лукашэнка ня ў стане. Тут нават ня ў тым справа, што на новыя выклікі ён рэагуе па-старому. Бо ні на што іншае ня здольны.

Праблема ў тым, што сам факт гэтага палітычна-папулісцкага рэмэйку наўрад ці прынясе яго аўтару іміджавыя дывідэнды. Бо мабілізаваць грамадзтва можа толькі нейкая моцная ідэя, якая сягае ў далягляд. Глядзіце, на выбарах, якія адбыліся апошнім часам у шэрагу краін (ЗША, Малдова, Баўгарыя), перамаглі кандыдаты, якія прапанавалі грамадзтву новую парадыгму разьвіцьця (ня будзем зараз разважаць наконт іх рэалістычнасьці). Раней і ў Беларусі быў такіпрыгожыіідэалягічныканцэпт.Маўляў, мы пабудавалі ўнікальную сацыяльную мадэль, у якой сацыяльная абарона насельніцтва спалучаецца з хуткім эканамічным ростам («Тыгар Усходняй Эўропы»), сацыяльна-палітычнай стабільнасьцю, нам зайздросьцяць усе суседзі, жыць у такой краіне — вялікі гонар. Такая своеасаблівая беларуская мара. А абяцаньне заробку $500 — гэта такі вельмі прыземлены канструкт, які мала каго натхняе.

Другі момант. Беларусы памятаюць, што абяцаньне давесьці заробак да $500 ужо два разы давалася. І кожны раз заканчвалася гэта кепска, вялікай дэвальвацыяй. У масавай сьвядомасьці грамадзтва згадка пра гэта піяр-ход зьвязана з псыхалягічнай траўмай. І навошта верадзіць раны?

Нарэшце апошняе. Абяцаць заробак $500,які ўжо быў у 2010 годзе, гэта рух наперад, а назад. Высьвятляецца, што Беларусь, можа, адзіная краіна ў сьвеце, дзе правадыр прапануе ісьці ў мінулае, задам наперад. З чым вас усіх шчыра віншую.

**Валер Карбалевіч**
**www.svaboda.org**

ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ

# 20 НОВЫХ КРЫЛАТЫХ ФРАЗ ЛУКАШЕНКО

**Самые интересные цитаты главы государства с пресс-конференции российским СМИ. На пресс-конференции региональным СМИ России Александр Лукашенко говорил 5 часов 40 минут — это рекорд его общения с российскими журналистами. Немало фраз, сказанных на этой встрече, станут крылатыми.**

Naviny.by собрали самые запоминающиеся из них.

«Причина распада Советского Союза? Стирального порошка не хватало. Мне жалко было смотреть на женщин в очереди, да и сам не единожды стоял».

«Беларусь со времен Советского Союза поставляет в Россию креветки и сельдь».

«Во времена Советского Союза Калининград, считайте, был белорусской территорией. <...> Мы, конечно, не претендуем на включение Калининграда в состав Беларуси, ни в коем случае...»

«В России нет ни одного белорусского гастарбайтера».

«Главный омбудсмен (матерное это слово) в Беларуси — это президент».

«Дубасят нас — и правильно делают. У нас в спорте появилась новая тенденция: шпильнул себя каким-то наркотиком вместо того, чтобы заниматься, и мышечная масса растет».

«Как старый футболист — это моя первая профессия. В хоккей я играю по несчастью, а вообще я футболист в своей специальности спортивной, но травма колена, и мне пришлось заниматься хоккеем».

«Я, если занимаюсь спортом, бегу на лыжах, то 13 километров бегу, не 10 и не 15. Если я делаю какие-то упражнения, то делаю 13 раз или несколько раз по 13. Я очень хорошо отношусь к этому числу».

«Вот эти всякие гаджеты, айфоны, плафоны и прочее будут приносить богатство в будущем — современные новейшие технологии».

«В образовании есть еще столько дурноты неразумной».

«Смотрю на этот „Черный квадрат", так он называется, да. Думаю, что тут такого? Может, и я бы за ночь такое нарисовал».

«И вообще культурные люди — это вообще талантище. Убей меня, я не напишу картину. Вот повесили бы завтра, я б не написал картину».

«Мужик не может быть таким талантливым [в искусстве], как женщина».

«Царствие ему покойное» (о бывшем президенте РФ Борисе Ельцине).

«Если вижу сорняки (в этом году был период влажный), то штаны снял и в трусах пошел пропалывать вместе с двумя человеками».

«У меня старший сын — черномазый такой».

«Если бы Беларусь сейчас ежегодно добывала 7-8 млн тонн нефти — это была бы самая процветающая страна».

«Говорят, что рынок всё отрегулирует, но рынок — это жулики».

«Если комбайн после поломки через сутки не завертится, мы отворачиваем голову генеральному директору предприятия».

«Покупайте белорусские сыры».

**"Белапан"**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 30.11.2016 у 15.30**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна добраахвотнікамі.